 

Фальклор Беласточчыны

## БАДАЙ ЗАЗУЛЯ

Бодай зазуля, бодай сівая
На лета не ковала.
Ой, выковала мого ойчэнька,
Я сіротою стала.

А я й ковала і буду коваці
По саду летаючы,
А ты плакала і будзеш плакаці
По людзях горуючы.

А я й ковала і буду коваці
Дай усе голосненько,
А ты плакала і будзеш плакаці
Дай усе жалосьненько.

А я й ковала і буду коваці,
Бо то моя робота.
А ты плакала і будзеш плакаці,
Бо ты вечна сірота.

Запісала ад ВЕРЫ ОМЕЛЬЯНЮК год 69 з вёскі Малынка, Беластоцкі пав. ЛЮБА КРАСОЎСКАЯ.

Голас мае настаўнік

# Аб артыкуле «Забойства маці»

Як настаўніка, мяне перш за ўсё цікавяць справы школьнай моладзі, яе паводзіны, адносіны да старэйшых, і то моладзі вясковай, таму што я сам нарадзіўся ў вёсцы і добра ведаю спецыфіку жыцця вясковых дзяцей і моладзі.

Гэта ад нас, настаўнікаў, здаецца, многа залежыць, як мы выхаваем нашых вучняў, колькі дамо ім ведаў, каб не наракалі потым на нас, што не навучылі сур'ёзна адносіцца да жыцця, да спраў вялікіх і малых. Гэта ж нашыя сённяшнія вучні маюць уключыцца ў будучыні ў грамадскае жыццё краіны.

Але і не ў меншай ступені цікавяць мяне справы сям'і ў нашай сучаснай вёсцы. Тым больш, што ў хуткім тэмпе змяняецца агульная спецыфіка яе жыцця. Узрастаючы лік насельніцтва патрабуе ўзросту сродкаў харчавання. І так ужо раздробленыя на нашых вёсках гаспадаркі, раздрабляюцца штораз больш. На вузенькіх палосках абмежаваных межамі, глыбокімі баразнамі цяжка ўводзіць усестароннюю механізацыю ў апрацоўцы зямлі. Зразумела, што механізацыя і прымяненне новай агратэхнікі з'яўляюцца залогам узросту выдайнасці з гектара.

Часта толькі за перааранную мяжу разбіваюць сабе лоб суседзі і браты; з выпадку новага падзелу гаспадарак узнікаюць такія ці іншыя трагедыі ў межах адной сям'і.

Аб адной з такіх трагедый я прачытаў у 33 № «Нівы» ад 16 жніўня г. г. Прачытаўшы артыкул «Забойства маці — Сямейная трагедыя» мяне агарнуў страх за Андрэя. Цяжка стала на душы. І я задаў сабе пытанне: да якой пары ў нашых вёсках будуць мець месца падобныя трагедыі, і што з'яўляецца іх прычынай? Адразу ўявіў сабе, што адказаць на яго — рэч нялёгкая. Бываюць розныя сямейныя трагедыі.

Але я маю на думцы тыя, якія звязаны з падзеламі, з зямлёй і гаспадаркай.

На маю думку, селянін, які жыве працай сваіх рук, моцна яшчэ кіруецца ўласніцкай псіхалогіяй. Нельга забываць, што жывем мы ў XX стагоддзі і імкненне да ўладання кавалкам уласнай зямлі, на якім можна гаспадарыць толькі прымітыўна, хіба не мае сваёй рацыі.

Як я ўжо сказаў на пачатку, трэба павышаць ураджайнасць нашых гаспадарак, каб мець у дастатковай колькасці сродкі харчавання. А ці ж гэта магчыма зрабіць на раздробленых гаспадарках? Здаецца, што не. І ў сваю чаргу, Андрэй, не быў бы названы паганым словам «забойца», калі б яго гаспадарка, як і гаспадарка яго маці і суседзяў, якія смяяліся толькі з таго, што на панадворку ў Белаказовічаў спрэчкі і бойкі — была супольнай гаспадаркай.

Калі разгледзець трагедыю ся'мі Белаказовічаў з Відава, больш практычна і канкрэтна, то, па-мойму, Андрэй мог бы пазбегнуць яе.

Кожнаму мілае жыццё. Хацелася жыць таксама і Ганне. мацеры Андрэя. І яна не без віны, што не давала роднаму дзіцяці спакою, праганяючы яго з гаспадаркі. Але вінаваты і Андрэй, не толькі як забойца роднай маці, але як чалавек, які не падумаў, што можна вырашыць справу інакш, зусім па-чалавечы. Чаму ён не падумаў аб сваіх дзецях, якіх зараз няма каму даглядаць. Ці ж не мог Андрэй падумаць аб тым, каб пакінуць матчыну гаспадарку? Зразумела, што мог. Ён мог бы выехаць і пасяліцца ў заходняй частцы краіны, дзе сельская гаспадарка патрабуе яшчэ шмат рук да працы. А і ў прамысловасці таксама мог знайсці сабе працу..

Хоць і раіць Андрэю ўжо позна, але няхай іншыя Андрэі не ідуць па гэтай дарозе.

ЯНКА І.
Настаўнік з Нарві.

ГУРТОК ПРАЦУЕ

## План — першачарговае заданне

Яшчэ тыдзень — другі і восень. У гэту пору гурткі Беларускага Таварыства ажыўляюць сваю культурна - асветную дзейнасць.

Каб дабіцца задавальняючых вынікаў у такой дзейнасці вельмі патрэбен ёсць добра апрацаваны план працы гуртка.

Ужо ў гэтых днях павінна сабрацца праўленне гуртка БГКТ, каб апрацаваць падраб'язны план працы да зімы.

Калі ў вёсцы існуе артыстычны гурток то не замнога будзе запланаваць якіх два беларускія прадстаўленні. Адно, напрыклад, на гадавіну Кастрычніцкай Рэвалюцыі, а другое на Каляды.

Ужо цяпер старшыня гуртка БГКТ павінен зацікавіцца, як выглядае сітуацыя з навучаннем беларускай мовы ў мясцовай школе? У план неабходна ўвесці справу падваення лічбы падпісчыкаў «Нівы» ў вёсцы! Згодна з ухвалай III Пленума Галоўнага Праўлення БГКТ абавязкова трэба вызначыць са складу гуртка спецыяльнага чалавека, які толькі займаўся б справай пашырэння «Нівы» ў вёсцы. Папулярызацыя «Нівы мае надзвычай вялікае значэнне і ў самай працы гуртка Беларускага Таварыства.

Ну, і не трэба забываць аб членскіх складчынах. Член нашага Таварыства плаціць у год 12 зл. Што няяснае просім пісаць да «Нівы». Растлумачым. Цераз тыдзень асобна зоймемся справай арганізавання працы артыстычнага гуртка.

ст. інструктар ГП БГКТ
С. ЯНОВІЧ



Удзельніца калектыву мастацкай самадзейнасці ў Навасадах, Гайнаўскага павета — Оля Баўтрымюк.
фота — В. Баршчэўскі

толькі можна было сказаць у гэтым выпадку.

Крыся пырснула вясёлым смехам.

Дама пагардліва змерала мяне вачыма, рэзка павярнулася і пайшла ў глыбіню пакояў.

— Ліцэй! — пачулася, як генеральша крычыць у тэлефон.

Мяне агарнула трывога за тое, што натварыў. Зрабілася страшна. Трэба было ісці. Я нібы прырос да падлогі. Стаяў і дурнавата ўсміхаўся.

Абняўшыся, як сяброўкі, задраўшы ўверх галовы, Крыся з Антосяй узіраліся на мяне, чакалі. У вачах жанчыны я ўбачыў нездавальненне. Крыся глядзела прыжмуранымі вачыма, упарта, з хітраватай насмешкай і выклікам. Мне здалося, што яны аб усім здагадаліся, і ў мяне было такое пачуццё, быццам я стаю перад імі голы.

— Будзьце здаровы! — нарэшце, праказаў я і павярнуўся.

— Ой, што гэта? — здзівілася Крыся і засмяялася.

— Работа Гектара, — адказала жанчына.

Я азірнуўся. У мяне была так распаласавана калошына, што віднелася лытка.

— Трэба зашыць, — дабразычліва азвалася цётка Антося.

— Крыся, прынясі нітак, чаплю!

— Пастойце, я зараз! — ахвотна ўскрыкнула Крыся і кінулася ў пакой.

— Што вы! — Я тут побач жыву! — пракрычаў я ёй услед. Мне зрабілася горача. Я ўзмаліўся: — Выпусціце мяне, калі ласка!

— Пойдзем! — прапанавала — цётка Антося.

Я хутчэй падаўся за жанчынай. Я быў не рады сваёй авантуры. Я ішоў прыніжаны, пакрыўджа-

— 25 —

ны. Быццам у генералавым доме на мяне напляvalі.

11

У гэты вечар я ў школу не хадзіў. Ва ўніверсітэце, у зале Снядэцкіх меўся адбыцца вечар беларускай літаратуры. Я пайшоў туды. З усяго горада сабраліся малойчыкі, загрувасцілі ўваход і не прапускалі нікога на вечар. Прабіцца маглі толькі дужыя. Да ўніверсітэта таксама прыбылі сотні студэнтаў і гімназістаў проста паўзірацца на бясплатнае відовішча. Было вядома, што скандалу не мінаваць. Сярод гэтых «назіральнікаў» я ўбачыў Браніслава Любецкага.

Па тагачасных законах Польшчы на тэрыторыю ўніверсітэта паліцыя доступу не мела, і хуліганы маглі вечар сапсаваць. Адзін энергічны студэнт з тых, якія арганізавалі сустрэчу, пракрычаў:

— Хлопцы, хто не баіцца, што фашысты яму наб'юць морду, збірайцеся ў калідоры!

Вядома. сярод дабраахвотнікаў быў і я.

— Хлопцы! — камандаваў студэнт далей, калі мы сабраліся, — самі бачыце, што трэба разагнаць гэтых маміных сынкоў. Яны нам усё сарвуць. Пойдзем і дадзім ім, як трэба!

— Нас менш! — азваўся нехта.

— Але мазолістыя рукі дужэйшыя! У атаку! Но пасаран!

— Но пасаран! — адказалі мы дружна лозунгам іспанскіх ваяўнікоў з фашызмам, падняўшы кулакі, і шагнулі на двор.

Нашы душы і целы даўно прагнулі выладаваць энергію на ворага. Пастроіўшыся клінам, мы, як лавіна, рынуліся на «залатую моладзь», раскалолі яе, прыціснулі да муроў і сталі біць.

Я выбіраў сабе партнёра, але гімназісцікі ад

— 26 —

мяне разляталіся, як ад страшыдла. І раптам наткнуўся на Браніслава. Ён ужо не стаяў нейтральным. Група малойчыкаў малаціла кулакамі нейкае хлапчаня ў вышытай кашулі, а вечны студэнт над імі выкрыкваў:

— Так яму, так!..

— Велікан ідзе! — пракрычаў гімназіст і кампанія разбеглася.

Аднак я паспеў схапіць князя за каўнер і з незвычайным задавальненнем саўгануў яму кулаком знізу пад нос, а потым абмяклае цела яшчэ змаху бразнуў аб брук. Успомніўся сённяшні паход да генерала, і ад таго, што добра даў Браніславу, мне зрабілася лягчэй.

— Каму яшчэ даць, ну! — закрычаў не я, а ўся мая душа.

Перада мной узнік маленькі ўвішны гімназісцік. Гэты мне быў не праціўнік. Яго мог збіць каленам. Дурань, пачаў шукаць саліднейшага. Пакуль я разглядаўся за другім, малыш нечакана падскочыў, пырнуў двума пальцамі мне ў вочы, асляпіў, а потым ударыў у пераносіцу. Пасыпаліся зоркі, пацямнела ў вачах і я ўпаў.

...Калі я падняўся, пляцоўка была пустая. Нейкая студэнтка прыкладала мне да носа мокрую хустачку і, як малому, загаварвала зубы, пацяшаючы, што ўсё пройдзе. Я паваліўся дахаты.

Прабудзіўся я рана, глянуў у люстэрка і спужаўся. Пераносіца распухла і пасінела, а пад вачыма паказаліся страшныя і вялікія «фанары».

Стараючыся не трапляць людзям на вочы, я пранік да бліжэйшага аўтамата, пазваніў у ліцэй, што захварэў.

— Прапаную неадкладна з'явіцца! — грозным і непрыязным тонам заявіў мне сакратар.

— 27 —



 

 




МІНІЯТУРЫ

### УДЗЕЛЬНІЧАЎ

— Галаву адкручу! З хаты выганю, калі яшчэ хоць раз у тваім дзённіку ўбачу двойку! — крычаў разгневаны бацька і трос дзённікам перад збянтэжаным тварам сына.

Ніводная двойка ў дзённік больш не трапляла. Бацька вельмі ганарыўся сваім учынкам... Тое, што сын не бярэ больш дзённіка ў школу, ён не ведаў...

### ЗДАРЭННЕ З СУСЕДКАЙ

— Ты чула, што з нашай суседкай здарылася?

— Не. А што?

— Аслепла, мабыць, небарака. За тры крокі знаёмых не пазнае.

— Няўжо?... Якая крыўда для яе мужа, ён жа павышэнне па службе атрымаў!

# БЫДЛЯЧЫЯ СПРАВЫ

Людзі сёння на кароў крыўдзяцца. Гарадскія чытачы крыўдзяцца на нястачу мяса, а без мяса ў каструлі юшка посная не па спадобе чалавеку. Міністэрскія заолагі свае прэтэнзіі маюць да нашых кароў. Малако хваляць, але на мяса крывяцца. Таму міністэрства закупіла шэрыя каровы сементальскай пароды з Галандыі. З Даніі збіраюцца прывезці быкоў чыстай пароды. Усё дзеля таго, каб выхаваць больш пародзістых кароў.

Мусіць з гэтай спробы нічога добрага не будзе. Затое непрыемнасці могуць быць.

Па-першае, невядома, ці спадабаюцца нашым каровам быкі-чужаземцы.

Жаночая парода надта грымасная. Убачыць, напрыклад, нашая карова датчаніна, рагамі закруціць, хвост падагне і чужаземца бліжэй не дапусціць. То ёй масць не спадабаецца, то рогі не па густу пакажуцца, і хто ў гэтым разбярэцца. Людзі ізноў з сементалкамі бяды набяруцца. Як жа з імі абыходзіцца, калі ў нас ніхто па-галандску не ўмее гаварыць, а чужаземцы па-беларуску не разумеюць. А да таго яшчэ нашы каровы звыклі салому да вясны жаваць. Што-праўда ад гэтага худнуць, але потым на майскім папасе, як на курорце папраўляюцца, а пра галандскіх мы не ведаем да чаго яны прывыклі. Можа іх галандскім какао паілі — хто ведае?

У сементалак ад нашай саломы балячкі, на бяду, павыскакваюць. І не вядома ці патрапяць нашы ветэрынары лячыць заграрічных кароў.

Нашы каровы да ветэрынараў ужо прывыклі. Бывае, карова захварэе, і так нацерпіцца пакуль ветэрынар з ёю справіцца, што больш хварэць не хоча.

З быкамі таксама па-рознаму можа атрымацца. Напрыклад: на лузе пасецца наш бугай, а тут раптам, адкуль не вазьміся, датскі сябра паказваецца. Капытамі перабірае як кабыла з цырка — хваліцца сваёй іншаземнай паходкай.

Наш бугай морду падыме, ноздры раздзьмуе, іншаземны запах пачуе і не дзіва, што збесіцца. Потым з датскага быка ніхто і дзіравай скуры не захоча купіць.

Значыцца, клопатаў сабе наробім.

Заграрічныя каровы — мясістыя, значыцца і цяляты будуць цяжэйшымі за нашых цялят. Таму няма ніякай пэўнасці, што такая раса развялася б у нас. У нас, як вядома, ёсць многа аматараў, якія любяць цялят абухам глушыць. Калі акажацца, што чвэртка мяса цяляціны будзе больш важыць, тады ніводзен бычочак да быка не дажыве.

На маю думку галандскім каровам трэба, перш за ўсё паказаць характар нашага жыцця. А то нейкая сементалка ўцячэ назад у Галандыю і раскажа як у нас каровы жывуць, так і сораму праз іх набярэмся.

Таму, грамадзяне добрыя, калі вам пападзецца галандская карова, трымайце яе на прывязцы і нават нанач з ланцуга не спускайце.

*Дзядзька Лявон.*

## Што я бачыў і чуў

Муж і жонка насілі фамілію Ціхаміравых, у іх было радыё «Дружба», аднак яны ўвесь час ваявалі з сабой.

✲

У сваёй навуковай працы ён сцвярджаў, што не ўвесь снег падае на зямлю — частка яго застаецца на стрэхах.

✲

У яе толькі зубы былі з высакароднага металу.

✲

Натхненне часта наведвала пісьменніка, але не знаходзіла яго дома... Ён заўсёды тырчэў на юбілеях.

✲

Ён быў незвычайным хуліганам. Хуліганіў толькі ў Палацы культуры.

Н. ВЕРАБ'ЁЎ
(«Кракадзіл»)




— Ці не знойдзецца ў вас, сябра, якой-небудзь гравачкі.

### АСЦЯРОЖНЫ

У рэстаране наведвальнік звяртаецца да афіцыянта:

— Чаму вы так асцярожна нясеце гэтую катлету?

— А бо яна мне, паганая, ужо два разы ўпала на падлогу...

### ДОБРЫ ДЗЕНЬ

Аднойчы дзядзька Фёдар здарава падвыпіў. Раніцой на досвітку вяртаецца дамоў і ледзь трымаецца на нагах:

— Чорт ве... ведае... якія дзверы, па... падыходзяць... да ма... майго ключа...

✲

— Што гэта, жонка, ты ізноў аддала 150 зл. на капялюш? Так раскідаць грашыма — грэх.

— Будзь спакойным. Гэты грэх упадзе толькі на маю галаву.

б-ч.

✲

Вёскай ішоў нейкі падарожны. Ён увайшоў у хату адной з гаспадынь і просіць кіслага малака. Гаспадыня наліла яму ў міску кіслага малака, паклала на стол лыжку і папрасіла есці, а сама выйшла на панадворак. У хаце ля дзвярэй ляжаў сабака.

Як толькі падарожны ўзяў лыжку і хацеў есці — сабака пачаў брахаць. Так і сядзіць падарожны, а есці не можа, бо сабака ўсё бурчыць. Прыходзіць гаспадыня. Убачыўшы, што малако не кранута пытае:

— А чаму вы не есцё малака?

— Як я хачу толькі есці, то сабака брэша і не дае.

— Ой, прабачце, схапілася гаспадыня, гэта ж сабачая міска. таму ён і вам з яе не дае.

Прыслаў ЯНКА ПЛЕВА
Ласінка Гайнаўскі павет.

## Апраўдаўся

Мужык павёз прадаваць барана на ярмарку ў горад. Пад вечар яму ўкралі яго. Калі вярнуўся дахаты, — гаворыць да жонкі:

— Ты не ўяўляеш, Таццяна, як сёння на ярмарцы ўсё кралі ад самай раніцы. Але я ўсё ж-такі не дурань, увесь дзень сцярог барана, як свайго вока. Толькі пад вечар... укралі.

(М. К.)

## ЭПІГРАМЫ

Ю. БЛАГАЎ

### ВАЖНАЯ ПРЫЧЫНА

У раманіста сталага, ў вагоне,
Спытаў юнак сядзеўшы візаві
Чаму ён ў сваіх кнігах не закране
Тэму глыбокага, складанага кахання.
І раманіст, абдумаўшы праблему,
Так адказаў, як бы абараняўся:
— Пісьменніку патрэбна зжыцца з тэмай,
А я законным шлюбам ўжо звязаўся.

В. НІКАЛАЕНКА

### ВОЛЕЛЮБНЫ ВЯПРУК

Вяпрук вішчаў: «Свабоды мала, волі!...»
А выпусцілі: зрыў усё на полі,
Гароды перарыў... І за такія балі —
Яго адразу закальчыкавалі.

### ЖОНКА ВІНАВАТА.

— Чаго ты, куме, п'еш так дужа?
— Я з гора п'ю, каханы дружа.
— Якое ж гора у цябе?
— Дык жонка піці не дае...

МІКОЛА ПАЛАТАЎ

### ЛІХА ПРАДАЎЦА НЕДАЛІВАЙКІ

Ён за навуку, за спутнікаў «балеў».
І захапляўся: «Цуда! Дзіва!»...
Вось толькі аўтаматаў не цярпеў —
Такіх, што разліваюць піва.

Пераклала — З. БУСЛОВІЧ

УЛАДЗІМІР КОРБАН

## Слановая зарплата

Казёл быў у Вала сакратаром.
І вось на пашы, неяк рана,
Яму заўважыў конь Буланы:
«Мы з Вараным ніяк не разбяром,
Навошта гэткая табе пасада?
Ні чыну ў цябе тут, ні акладу.
Ты ж не хто-небудзь, а Казёл!
Цябе не паважае Вол».
«Ну, кінь, — сказаў Казёл, — і дужа паважае.
Што чыну я не маю,
Дык гэта не бяда А вось аклад
Я маю значны, брат:
Сланом лічуся я па штату
І атрымоўваю слановую зарплату».

✲

А хіба ў нас не так? — Залічваюць у штат
Кагосьці на пасаду інжынера,
А даручаюць падшываць паперы.



— Вон пайшла, ведзьма, я першая яго выратавала...

 